*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
*Францішак БАГУШЭВІЧ*




# НАША СЛОВА

Штотыднёвая газета (Выходзіць з сакавіка 1990 г.) ◈ № 15(175) ◈ 13 красавіка 1994 г. ◈ Кошт — 100 рублёў.

## ПОСТУП ТЫДНЯ

*15 КРАСАВІКА 1994 ГОДА ПАЧЫНАЕЦЦА ВЫБАРЧАЯ КАМПАНІЯ ПЕРШАГА ПРЭЗІДЭНТА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ. З гэтага дня па 24 красавіка будзе праходзіць этап рэгістрацыі ініцыятыўных груп, якія імкнуцца вылучыць свайго кандыдата ў прэзідэнты. Збор подпісаў грамадзян будзе праходзіць з 25 красавіка па 14 траўня. Па закону кожны грамадзянін мае права падтрымаць сваім подпісам адначасова некалькіх прэтэндэнтаў, але за кожнага прэтэндэнта можна паставіць подпіс толькі адзін раз. З 27 траўня па 2 чэрвеня будзе праходзіць рэгістрацыя кандыдатаў у прэзідэнты. Пасля рэгістрацыі кожны кандыдат атрымае 20 мільёнаў рублёў на правядзенне перадвыбарнай агітацыі і яшчэ 10 мільёнаў рублёў на зарплату сваім даверaным асобам.*

**«МОЙ ВІЗІТ У МЕНСК БЫЎ ВЕЛЬМІ КАНСТРУКТЫЎНЫМ»,**— так сказаў падчас прэс-канферэнцыі для беларускіх і замежных журналістаў генеральны сакратар Арганізацыі Аб'яднаных Нацый Бутрас Галі пра сваё наведванне нашай краіны.

*У БЛІЖЭЙШЫЯ ДВА ГАДЫ БЕЛАРУСЬ МАЕ МАГЧЫМАСЦЬ АТРЫМАЦЬ АД СУСВЕТНАГА БАНКА дзякуючы падпісанаму з ім мемарандуму аб узаемаразуменні да 600 млн. долараў крэдыту. Але як гэтыя грошы будуць патрачаны?*

**СТАРШЫНЯ ВЯРХОЎНАГА САВЕТА МЯЧЭСЛАЎ ГРЫБ ЗРАБІЎ ДВУХДЗЁННУЮ РАБОЧУЮ ПАЕЗДКУ ПА ВІЦЕБСКАЙ ВОБЛАСЦІ.** Падчас сустрэч з жыхарамі вобласці было зададзена М. Грыбу шмат пытанняў. Напрыклад, як адносіцца Старшыня Вярхоўнага Савета да Партыі камуністаў Беларусі, на якое ён адказаў: «Як да любой іншай зарэгістраванай і маючай свой статут. Я як дзяржаўная асоба прыхільнікам ніякай партыі не з'яўляюся». На пытанне: «Ці можна лічыць паездку Старшыні па Віцебшчыне як пачатак перадвыбарнай барацьбы за пост прэзідэнта?» М. Грыб адказаў адмоўна. «Гэта звычайная паездка для сустрэч з грамадзянамі рэспублікі, выбаршчыкамі маёй акругі. Пакуль што я для сябе асабіста не вызначыў, ці буду выстаўляць сваю кандыдатуру на пост прэзідэнта». У час паездкі Старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь амаль не карыстаўся дзяржаўнай мовай. Выступленне Старшыні Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь Мячэслава Грыба перад выбаршчыкамі Віцебска, якое змешчана ў «Народнай газеце» і «Звяздзе», перакладзена на беларускую мову.

*У МЕНСКУ АДБЫЛАСЯ АБЛАСНАЯ КАНФЕРЭНЦЫЯ Беларускага народнага фронта. На ёй створаны абласныя арганізацыі БНФ і Партыі БНФ.*

**1 КРАСАВІКА 1994 ГОДА НА ПАСЯДЖЭННІ ПРЭЗІДЫУМА ВЯРХОЎНАГА САВЕТА** было вырашана спыніць фінансаванне Часовай камісіі па барацьбе з карупцыяй у сувязі з выкананнем ёю даручэння Вярхоўнага Савета. Але якім было даручэнне — цяжка сказаць, бо карупцыя як была так і засталася некранутай. Адно што зрабіла Камісія — гэта паспрыяла зняццю з пасад двух беларускіх генералаў і Станіслава Шушкевіча.

*ПРЭЗІДЫУМ ВЯРХОЎНАГА САВЕТА ЗГАДЗІЎСЯ З ПРАПАНОВАМІ САВЕТА МІНІСТРАЎ АБ НАЗНАЧЭННЯХ: С. Лінга — на пасаду намесніка Старшыні Савета Міністраў, міністра эканомікі Рэспублікі Беларусь; А. Сталярова — старшынёй Дзяржаўнага камітэта Рэспублікі Беларусь па тэлебачанні і радыёвяшчанні; А. Бутэвіча — міністрам культуры і друку Рэспублікі Беларусь; А. Дарафеева — міністрам прыродных рэсурсаў і аховы навакольнага асяроддзя Рэспублікі Беларусь.*

*ЗВАРОТ ДА ГРАМАДЗЯН РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ*

## НЕЗАЛЕЖНАСЦЬ ДЗЯРЖАВЫ — ГАРАНТЫЯ ДАБРАБЫТУ НАРОДА

З прыняццем Канстытуцыі незалежнай Рэспублікі Беларусь, дзе засведчана пераемнасць шматвяковай гісторыі развіцця беларускай дзяржаўнасці і абвешчана адзінай дзяржаўнай беларуская мова, становіцца відавочным, што нацыянальна-дзяржаўнае адраджэнне мае падставы стаць незваротным.

Эканамічны, сацыяльна-палітычны і грамадска-культурны крызіс, які перажывае Беларусь, істотна перашкаджае паступу рэформаў у моўна-культурным жыцці краіны. Менавіта адсутнасць сапраўды незалежнай нацыянальнай дзяржавы на працягу мінулых стагоддзяў, заняпад беларускай культуры і мовы прывёў да мяжы разбурэння грамадзянскую супольнасць на Бацькаўшчыне і стаў адной з галоўных прычын гэтага крызісу.

Самаахвярныя высілкі грамадскасці і ў значнай ступені нацыянальна свядомай інтэлігенцыі, скіраваныя на развіццё і ўдасканаленне шматвяковых традыцый будаўніцтва беларускага нацыянальна-дзяржаўнага дома, дасягнулі значнага поспеху. Пачатковая школа, сістэма дашкольнага і пазашкольнага выхавання ўпершыню на працягу жыцця апошніх пакаленняў набываюць нацыянальную адметнасць. Колькасны склад гэтых беларускамоўных установаў пачынае адпавядаць прапорцыі этнічнабеларускага насельніцтва краіны. Няўхільна расце колькасць дзяржаўных установаў і грамадскіх арганізацый Беларусі, якія ставяць за мэту і вырашаюць задачы нацыянальнага адраджэння ў галіне культуры. Значна ўзраслі тыражы, палепшылася структура і адраснасць беларускага перыядычнага друкаванага слова, упершыню ў гісторыі пасляваеннай Беларусі ствараецца творча-вытворчая база для выпуску нацыянальных падручнікаў і дапаможнікаў, слоўнікаў і даведкавай літаратуры для навучальных установаў усіх тыпаў. Адраджаюцца нацыянальныя грамадазнаўчыя навукі. Больш і больш пачынаюць шанавацца нацыянальныя святыні, гістарычная сімволіка, аднаўляецца гістарычная памяць народа Беларусі.

У той жа час гісторыя вучыць, што нацыянальнае адраджэнне Беларусі на працягу апошніх стагоддзяў, паспяхова пачынаючыся і набываючы значны грамадскі рэзананс, не аднойчы захлыналася і перапынялася цемрашальскімі сіламі, насіллем і крывёй. Грамадзянам Беларусі ўсіх нацыянальнасцей, веравызнанняў і палітычных перакананняў неабходна памятаць, што дабрабыт Беларусі — гэта дабрабыт усіх яе сыноў і дачок, адраджэнне беларускай мовы і развіццё беларускай нацыянальнай культуры — гэта перадумова вольнага, гарманічнага развіцця моў і культур нацыянальных меншасцей краіны, што ўмацаванне незалежнай Беларускай дзяржавы — гэта гарантыя выхаду Бацькаўшчыны з глыбокага крызісу, гарантыя сфарміравання грамадзянскай супольнасці Беларусі, гарантыя згоды і міру ў краіне. Іншага шляху Беларусі, як і ўсім краінам цывілізаванага свету, не дадзена. Іншы шлях вядзе ў грамадска-палітычны і сацыяльны тупік, да грамадзянскай нестабільнасці і нават горшага, чаго нельга пажадаць ніводнаму з народаў.

Напярэдадні ўсенародных выбараў першага Прэзідэнта незалежнай Беларусі, выбараў новага складу Вярхоўнага Савета і органаў мясцовай улады няхай кожны грамадзянін Беларусі глыбока разважыць, у якой краіне ён хацеў бы жыць. Трэба памятаць, што толькі тыя кандыдаты, якія на справе падтрымліваюць ідэі развіцця незалежнай Беларусі, ідэі нацыянальна-культурнага адраджэння, якія прызнаюць неад'емнае права народа Беларусі мець у сваім дадзеным Богам дзяржаўным доме на куце беларускую мову ў якасці дзяржаўнай, якія не ганьбяць нацыянальную сімволіку і гістарычныя каштоўнасці слаўнае мінуўшчыны Бацькаўшчыны, могуць выражаць сапраўдную гістарычную волю народа Беларусі. Толькі такія людзі могуць сцвердзіць гістарычную адметнасць культурнага шляху Бацькаўшчыны, у якой заўсёды вольна развіваліся б і нацыянальныя меншасці краіны.

Заклікаем грамадзян Беларусі праявіць мудрасць і грамадзянскую сталасць, здаровы прагматызм, гатоўнасць да грамадзянскага прымірэння і нацыянальнай згоды дзеля дабра нашай адзінай Бацькаўшчыны і прыслухацца да слоў гэтага Звароту.

Рэспубліканская Рада Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны.
11 сакавіка 1994 года. г. Менск.

## Няхай жыве вольная і незалежная Беларусь!

*Шчыра вітаем сяброў рэдакцыйнай калегіі, чытачоў «Нашага слова» з 76-мі ўгодкамі абвяшчэння Беларускай Народнай Рэспублікі векапомнага 25 сакавіка 1918 года. Зычым Вам і ўсяму беларускаму народу найлепшых і найхутчэйшых поспехаў у замацаванні адноўленай незалежнасці Рэспублікі Беларусь!*

*Асабістая свабода і нацыянальна-дзяржаўная незалежнасць — найбольшыя і найдаражэйшыя дасягненні кожнага народа. Беларусам гэта свабода каштавала мільёнаў людскіх ахвяр, якія бязвінна загінулі ў сталінскіх і гітлераўскіх канцлагерах. Дасягненне свабоды Рэспублікай Беларусь яшчэ раз даказвае перамогу ідэі незалежнасці, абвешчанай усяму свету гістарычным актам 25 сакавіка 1918 года.*

*Слава і гонар змагарам за свабоду!*
*Няхай жыве вольная, незалежная Беларусь!*

Алесь АЛЕХНІК, Генеральны сакратар Асацыяцыі беларусаў Аўстраліі.

## Станіслава Шушкевіча берасцейцы ў крыўду не далі

Выступаючы з трыбуны Вярхоўнага Савета, дэпутат сп. Мароз кінуў яшчэ адзін камень паўздагон Станіславу Шушкевічу: маўляў, якіясь «молодчики» яго ў Бярэсці «плотно» аберагалі ад выбаршчыкаў і г. д. Скажу, як сведка, што ўсё адбывалася значна інакш. Па-першае, да Станіслава Шушкевіча рынулася група пажылых мужчын з абразлівым воклічам на «великом и прекрасном». «Кто вас сюда приглашал?» Калі ж тыя з берасцейцаў, хто сапраўды прыйшоў паслухаць дэпутата Вярхоўнага Савета, не далі раз'юшаным правакатарам навааліцца на госця ды сарваць сустрэчу, пачаліся новыя правакацыйныя ды зневажальныя воклічы: «Говорите по-русски!» І зноў сумленныя выбаршчыкі-берасцейцы, а не якіясь там міфічныя «малойчыкі» зрабілі ўсё, каб сустрэча з госцем з Менску прайшла цывілізавана. Я не пра тое, якія задаваліся пытанні, ці заўсёды вычарпальнымі былі адказы і як хто ставіцца да пазіцый Станіслава Шушкевіча і ягонай дзейнасці на пасадзе Старшыні Вярхоўнага Савета. Безумоўна адно — гэта сумленны чалавек, шчыры патрыёт роднай Беларусі, і берасцейцы даказалі, што інтэркамуністычным «страсцям-мардасцям» у іх горадзе разгуляцца не ўдасца.

В. БАРБОЛІН,
г. Брэст.

*ВЫДАТКІ НА ПРАВЯДЗЕННЕ ПЕРАДВЫБАРНАЙ АГІТАЦЫІ КАНДЫДАТАМ У ПРЭЗІДЭНТЫ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ (выданне плакатаў, арэнда памяшканняў і інш.) запланаваны ў 300 мільёнаў рублёў, але — па 20 мільёнаў на аднаго кандыдата. Значыць, Цэнтрвыбаркам мяркуе, што кандыдатаў у прэзідэнты будзе не менш за 15.*

*Жыццё Таварыства*

## Не забываем сваіх каранёў

Сёлета спаўняецца 425 гадоў атрымання Радашковічамі гарадскога самакіравання паводле нормаў магдэбургскага права. Гэтай падзеі была прысвечана вечарына «Радашковічы ў мінулым», наладжаная мясцовай арганізацыяй ТБМ імя Ф. Скарыны. Яна выклікала вялікую цікавасць радашкаўчан: зала школы мастацтваў была перапоўнена. За гадзіну да пачатку працаваў гандаль, можна было набыць кнігі, выпушчаныя ТБМ і выдавецтвам «Тэхналогія», розныя тавары, пачаставаць дзятву цукеркамі.

З гісторыяй Радашковіч прысутных знаёмілі тутэйшыя актывісты ТБМ імя Ф. Скарыны. Іх выступленні суправаджаліся нумарамі мастацкай самадзейнасці, падрыхтаванымі калектывамі Дома культуры (кіраўнік С. Гаўдур), школы мастацтваў (кіраўнік А. Зялёнка), фальклорнага ансамбля «Купалінка» (кіраўнік Ж. Жылінская). Натхнёна прачыталі патрыятычныя вершы аб Беларусі і роднай мове А. Зялёнка, Н. Гваздзюкевіч, В. Вітоха, С. Цімафееў, С. Шашута, Г. Кручонак. Рэчытатывам прагучала песня С. Сокалава-Воюша «Я — нефармальны беларус».

Наша рада стараецца шырыць сувязі з іншымі суполкамі. Так, мы ездзілі на святкаванне Новага года, якое праводзіла Маладзечанская гарадская рада ў СШ № 5, паказалі там свой фальклорны калектыў «Крынічка». Апошнім часам мы сталі надаваць асаблівую ўвагу рабоце з дзятвой. Выхаванцы садка радашковіцкага керамічнага завода і вучні 5 «А» класа СШ № 1 нядаўна наведалі сталічны тэатр імя Я. Купалы. Тут трэба падзякаваць кіраўнікам завода мастацкай керамікі М. Кладавай і керамічнага завода К. Салагубу, якія ў цяжкіх эканамічных умовах усё ж далі аўтобусы для дзяцей.

**М. ЛІННІК,**
**старшыня Радашковіцкай рады ТБМ.**

**Калектыўнай сябрынай Таварыства беларускай мовы агенцтвам «Геронт-А» зацверджана праграма дзейнасці сябрыны, якая мае назву «Наш дом». Найважнейшай умовай беларускага адраджэння — пазначана ў прадмове да праграмы — павінна стаць фарміраванне павагі да ўсіх нацыянальных культур, якія стагоддзямі суіснавалі, інтэграваліся і сталі непадзельнай часткай сучаснай культуры Беларусі.**

**Праграма вызначае наступныя накірункі дзейнасці агенцтва: прапагандысцка-інфармацыйны, навукова-даследчы і кансультацыйны, а таксама выдавецкі.**



***Пастановай Рэспубліканскай Рады ТБМ імя Ф. Скарыны ад 11 сакавіка 1994 года ў склад Рэспубліканскай Рады ТБМ каалтаваны старшыня Гродзенскай абласной арганізацыі сп. Сцяцко Павел Уладзіміравіч.***

# ПАСТАНОВА
## Рэспубліканскай Рады ТБМ імя Ф. Скарыны «Аб арганізацыйна-прапагандысцкай дзейнасці ТБМ»

*11 сакавіка 1994 года* *г. Менск*

**Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны працягвае працу па стварэнні суполак, рэгіянальных арганізацый ТБМ. Але вынікі гэтых намаганняў нельга лічыць дастатковымі. Да ліку недахопаў працы шэрага суполак і арганізацый Таварыства можна аднесці іх слабую сувязь з рэспубліканскай і іншымі структурамі ТБМ, нізкую актыўнасць пры ажыццяўленні статутных задач і рашэнняў кіруючых органаў Таварыства, недакладнасць у вядзенні неабходнай дакументацыі, што нярэдка адмоўна адбіваецца на арганізацыйна-прапагандысцкай дзейнасці ТБМ. Адзначанае вышэй адмоўна ўплывае на ход ажыццяўлення Закона аб мовах у Рэспубліцы Беларусь.**

**У сувязі з гэтым Рэспубліканская Рада ТБМ імя Ф. Скарыны пастанаўляе:**

**1. Стварыць рэспубліканскую арганізацыйна-прапагандысцкую камісію ТБМ, вылучыўшы на пасады яе сустаршынь сяброў Рады Сяргея Запрудскага і Яўгена Цумарава.**

**2. Рэкамендаваць сябрам Таварыства, суполкам і рэгіянальным арганізацыям ТБМ акцэнтаваць увагу на далейшым разгортванні масавага руху за адраджэнне беларускай мовы ў краіне, актывізаваць арганізацыйна-прапагандысцкую дзейнасць Таварыства, актыўна асвятляць у сродках масавай інфармацыі арганізацыйна- прапагандысцкую дзейнасць ТБМ.**

**3. Абвясціць сярод арганізацыйных структур Таварыства (суполкі, рэгіянальныя арганізацыі, калектыўныя сябрыны) конкурс па арганізацыйна-прапагандысцкай працы, падвёўшы яго вынікі да 5-й гадавіны ўтварэння Таварыства беларускай мовы (27 чэрвеня 1994 г.). На аснове матэрыялаў конкурсу стварыць летапіс дзейнасці Таварыства ад пачатку яго ўтварэння.**

**4. Правесці 27 чэрвеня 1994 года ўрачыстае пасяджэнне, прысвечанае 5-й гадавіне Таварыства з удзелам прадстаўнікоў Рэспубліканскай Рады, рэгіянальных арганізацый ТБМ і пераможцаў адзначанага вышэй конкурсу.**

**5. Даручыць сакратарыяту ТБМ, камісіям Таварыства пастаянна арганізоўваць і праводзіць прэс-канферэнцыі, інфармацыі зацікаўленых дзяржаўных і грамадскіх структур, на якіх асвятляць ход ажыццяўлення Закона аб мовах, а таксама дзейнасць Таварыства па прапагандзе беларускага слова.**

**6. У мэтах далейшага ўдасканальвання арганізацыйна-прапагандысцкай дзейнасці завяршыць да канца першага паўгоддзя стварэнне абласных (Віцебскай, Гомельскай, Менскай, Брэсцкай) арганізацый ТБМ.**

# ПАСТАНОВА
## Рэспубліканскай Рады ТБМ імя Ф. Скарыны
## (11 сакавіка 1994 года)

***Аб газеце «НАША СЛОВА»***

**1. Ухваліць дзейнасць рэдакцыі штотыднёвіка «Наша слова» па прапагандзе беларускага слова, па асвятленні працэсу ажыццяўлення Закона аб мовах, адраджэння нацыянальнай і гістарычнай свядомасці.**

**2. Звярнуць увагу галоўнага рэдактара на неабходнасць павышэння патрабавальнасці да прафесійнамоўнага ўзроўню публікацый у газеце.**

**3. Прапанаваць рэдакцыі супольна з Камісіяй па культуры мовы ТБМ наладзіць сістэматычнае публікаванне на старонках «Нашага слова» крытычных аглядаў па культуры мовы сродкаў масавай інфармацыі — радыё, тэлебачання, газет, часопісаў.**

**4. Рэкамендаваць рэгіянальным структурам Таварыства садзейнічаць стварэнню сеткі пазаштатных карэспандэнтаў-прапагандыстаў газеты «Наша слова».**

*Меркаванні*

**Як вядома, роднай мове і гісторыі Бацькаўшчыны належыць галоўная роля ў фарміраванні нацыянальнай свядомасці. Чалавек, які валодае матчынай мовай і адчувае ўласныя гістарычныя карані, ніколі не адцураецца ад свайго народа. Гэтым падмуркам нацыянальнай свядомасці такі чалавек прынцыпова адрозніваецца ад тых «тутэйшых», пра каго Максім Багдановіч яшчэ ў 1916 годзе ў цяпер хрэстаматыйным вершы «Пагоня» з болем у сэрцы сказаў, што Беларусь, сваю «Маці-Краіну», яны забылі, ад яе адракліся, яе «прадалі ў палон».**

# ЗОНА

Нацыянальная самасвядомасць — неад'емная, нават вызначальная, частка асобы. Яе адсутнасць — непазбежна вядзе да страты адчування свайго месца ў грамадстве, да страты ўласнага «я» пад татальным націскам прымусовага калектывізму, які гвалтоўна навязваўся нам дзесяцігоддзямі.

У нашых умовах адным з генератараў паступовага ператварэння ўсталяванага безаблічнага паняцця «насельніцтва» ў вялікія паняцці «народ», «грамадзяне» з'яўляецца рост нацыянальнай самасвядомасці беларусаў. Можна сцвярджаць, што згаданы працэс адбываецца толькі ў тым выпадку, калі людзі прыходзяць да асэнсавання неацэннай каштоўнасці сваёй уласнай, традыцыйнай культуры, якая ў першую чаргу заўжды ўстойліва абапіраецца на родную мову і родную гісторыю.

Зараз, бадай, ні ў кога не выклікае сумненняў, што нацыянальная свядомасць нашага народа і ўвогуле беларускасць апошнім часам на Бацькаўшчыне прыкметна пашырыліся. Станоўчыя зрухі тут ужо відавочныя і неаспрэчныя. Вельмі прыемна, што крок за крокам родная мова адваёўвае свае пачэсныя месцы ў паўсядзённым жыцці. Гэтаму, у прыватнасці, спрыяе Закон аб мовах, які надаў беларускай мове статус адзінай дзяржаўнай, дзейнасць Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны, выданне беларускамоўнай перыядычнай прэсы, іншыя захады. Колькі раней ні бэсцілі беларускую мову, колькі ні выкаранялі яе са школ, але канчаткова знішчыць роднае слова ворагі беларушчыны ўсё ж не змаглі. І гэта, заўважым, пры тым, што былое партыйнае кіраўніцтва рэспублікі актыўна праводзіла палітыку «зліцця моў», якая на практыцы азначала гвалтоўную русіфікацыю ўсіх без выключэння сфер нашага жыцця. Але ўсё ж захаванне шыльды «БССР» гарантавала Крамлю магчымасць мець на сваю карысць яшчэ адзін паслухмяна-пакорлівы голас у ААН. А пры поўным знікненні беларускай мовы з ужытку правамоцнасць і праўдзейнасць згаданай дзяржаўнай шыльды аўтаматычна падпала б пад сумненне. Таму камуністычныя ўлады не адважваліся адкрыта паставіць нашу родную мову па-за законам, сёе-тое нават, няхай без ахвоты, фармальна, але рабілася, каб мова захоўвалася.

У значна горшую сітуацыю трапіла нацыянальная гісторыя беларусаў. Вельмі доўгі час аб'ектыўны ход падзей айчыннай даўніны заставаўся па сутнасці зонай глухога маўчання. Праўда, гэта не азначае, што гістарычнай навукі і адукацыі ў БССР зусім не было. Але ж мы гаворку вядзём аб сапраўднай беларускай гісторыі, якая мае вельмі мала агульнага з афіцыйным сфальсіфікаваным і перакручаным да непазнавальнасці падыходам да вывучэння роднай мінуўшчыны, які амаль непадзельна правіў баль у колішняй БССР. Дарэчы, падобнае стаўленне (толькі з іншай, вядома, ідэалагічнай начынкай) да праблем мінулага Беларусі назіралася і з боку гісторыкаў былой Расійскай імперыі. І хоць першыя і другія карысталіся рознай тэрміналогіяй, рознымі канцэпцыямі грамадскага развіцця, яднала іх найперш тое, што ўсе яны аднадушна цвёрдай рукой закрэслівалі лепшыя, найбольш слаўныя старонкі нашай гісторыі: існаванне беларускай дзяржаўнасці, пабудаванай на агульнаеўрапейскіх прынцыпах, змаганне беларусаў за незалежнасць сваёй краіны, якое на працягу ўсёй на-

# ЖАНЧЫНЫ ВУЧАЦЦА, МАРАЦЬ ПРА

**Трэці год у Слуцку працуюць курсы па вывучэнні роднай мовы, арганізаваныя па ініцыятыве аддзела адукацыі гарвыканкама і Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны. Бясплатныя, заняткі праводзяцца па суботах. Для рэгіёна (а ў даравалюцыйны час гэта таксама частка зямель суседніх Капыльшчыны, Клеччыны, Старобіншчыны), дзе склалася сучасная літаратурная беларуская мова, для Случчыны, якая дала не менш трох дзесяткаў пісьменнікаў, тут радасці мала, хутчэй горкі роздум. Не ад добрага жыцця заснаваны курсы. Вельмі ўжо за гады эсэсэраўскага таталітарызму занядбалі тут родную мову — і ў горадзе, і на вёсцы. Сёлета на курсы запісалася сорак чалавек. Створаны дзве групы, заняткі вядуць кваліфікаваныя выкладчыкі з ліку настаўнікаў школ горада. Іх слухачы таксама ў пераважнай большасці педагогі, выхавацелькі дзіцячых садкоў. Падалі заявы дзве супрацоўніцы цэнтральнай гарадской бібліятэкі, а яшчэ сакратарка гарадскога суда. Усе слухачы — жанчыны. Можна падумаць, што мужчыны дасканала валодаюць матчынай мовай і на курсах ім няма чаго рабіць. Каб жа так! Зазірніце ў Дом Саветаў, на сямі паверхах якога ў шматлікіх кабінетах нямала чыноўнікаў розных рангаў і шмат мужчын, паслухайце іх размовы. Размаўляюць яны між сабою і з наведвальнікамі, лічыцца, што парасійску, а практычна на моўнай сумесі, на той самй «трасянцы». Праўда, на сесіях гар- і райсавета кіраўніцтва робіць даклады на роднай мове. Прагрэс. А вось чыноўнікі нізы пакуль як быццам нечага чакаюць... Дарэчы, калі ў кіёск прывозяць прэсу, чыноўнікі спяшаюцца купіць рускамоўныя газеты. Па-ранейшаму бяруць «Праўду». З менскіх выданняў — «Советскую Белоруссию», «Мы и время». Беларускамоўныя газеты ў апошнюю чаргу.**

З цэнтральнай бухгалтэры

*Гісторыя Айчыны — вайскоўцам*

М. В. БІЧ

# Беларусы: нацыянальнае жыццё і культура ў другой палове XIX — пачатку XX ст.

**Працягваем друкаваць раздзелы з новага вучэбнага дапаможніка для вайскоўцаў «Гісторыя Беларусі».**

Пасля трох падзелаў Рэчы Паспалітай амаль уся тэрыторыя, заселеная беларусамі, была ўключана ў межы Расійскай імперыі. У пачатку XIX ст. яна ўвайшла ў склад 5 заходніх губерняў: Віцебскай, Магілёўскай, Менскай, Гродзенскай і Віленскай. Паводле дадзеных перапісу 1897 г., беларусы ў Магілёўскай губерні складалі 82,4, у Менскай — 76, у Віленскай — 56, у Віцебскай — 52 і ў Гродзенскай — 44 працэнты. Усяго на гэтай тэрыторыі пражывала 5408 тыс. беларусаў.

У Віленскай губерні беларускае насельніцтва мела абсалютную большасць у Лідскім, Ашмянскім, Дзісненскім і Вілейскім паветах. У Віцебскай губерні да ліку паветаў з пераважна беларускім насельніцтвам адносіліся Дрысенскі, Веліжскі, Невельскі, Гарадоцкі, Лепельскі, Полацкі і Віцебскі; у Гродзенскай — Сакольскі, Ваўкавыскі, Слонімскі, Пружанскі і Гродзенскі. Амаль палову насельніцтва ў Свянцянскім павеце Віленскай і Себежскім павеце Віцебскай губерні складалі беларусы. Адносную большасць (26 працэнтаў) мелі яны і ў Віленскім павеце. Такая ж удзельная вага беларусаў была ў Беластоцкім павеце Гродзенскай губерні.

Акрамя беларускага насельніцтва, у 5 заходніх губернях у канцы XIX ст. пражывала 3,1 млн. рускіх, палякаў, украінцаў, літоўцаў, латышоў і яўрэяў. Апошнія адносна раўнамерна рассяляліся па ўсім краі, канцэнтруючыся ў гарадах і мястэчках, дзе складалі большасць. Прыкметнай сярод гараджан была і праслойка рускамоўнага насельніцтва. Літоўцы пераважалі ў Трокскім павеце Віленскай губерні, латышы — у Люцынскім і Рэжыцкім паветах Віцебскай губерні. Акрамя таго, значная колькасць літоўцаў жыла ў Свянцянскім і Віленскім паветах, а латышоў — у Дзвінскім павеце. Польскае насельніцтва засяроджвалася ў асноўным на захадзе Гродзеншчыны і Віленшчыны.

Абсалютная большасць беларусаў (да 95 працэнтаў) жыла ў сельскай мясцовасці і адносілася да сялянскага саслоўя. Сярод гараджан 5 заходніх губерняў беларусы складалі ў сярэднім толькі 14,5 працэнта. Разам з тым трэба адзначыць, што 86 тысяч (50 працэнтаў) усёй спадчыннай шляхты Гродзенскай, Віленскай, Ковенскай, Менскай і Магілёўскай губерняў у час перапісу 1897 г. прызналі ў якасці роднай беларускую мову.

Істотнай асаблівасцю беларусаў як этнасу ў параўнанні з рускімі, палякамі і літоўцамі быў падзел іх па веравызнанні на праваслаўных і каталікоў, які шырока выкарыстоўваўся ў мэтах русіфікацыі і паланізацыі. Пасля скасавання ў 1839 г. уніі і прымусовага далучэння уніятаў да дзяржаўнай царквы праваслаўных сярод беларусаў сталі значнай большасцю (у 1897 г.— 81 працэнт). Асноўная маса беларусаў-каталікоў пражывала на Віленшчыне і Гродзеншчыне.

На жаль, статыстычных звестак аб нацыянальным складзе буржуазіі, памешчыкаў і пралетарыяту Беларусі ў гістарычных крыніцах няма. Таму даводзіцца карыстацца ўскоснымі дадзенымі і меркаваннямі. Бясспрэчна, што сяляне, а таксама буржуазія і пралетарыят сялянскага паходжання на этнічнай беларускай тэрыторыі ў пераважнай большасці былі беларусы. Па плошчы землеўладання на Беларусі ў сярэдзіне 60-х гадоў памешчыкі, што лічылі сябе палякамі, пераўзыходзілі «няпольскіх» памешчыкаў у чатыры разы. Другую па колькасці нацыянальную групу сярод апошніх складалі расійцы. Да канца XIX ст. колькасць расійскіх землеўладальнікаў, а таксама плошчы іх землеўладання пры актыўным садзеянні ўрада істотна павялічыліся. Але і ў пачатку XX ст. перавага польскага буйнапамеснага землеўладання на Беларусі захоўвалася.

Такім чынам, у галоўных гаспадарчых сферах — землеўладанні і сельскай гаспадарцы, у прамысловасці і гандлі Беларусі — панавалі прадстаўнікі не беларускага, а польскага, рускага і яўрэйскага этнасу, што адмоўна адбівалася на станаўленні беларускай нацыі, на развіцці нашай нацыянальнай культуры і мовы.

Вядома, прадстаўнікі беларускай буржуазіі імкнуліся авалодаць нацыянальным рынкам, стаць эканамічна пануючай сілай у сваім краі — і ў землеўладанні, і ў прамысловасці, і ў гандлі. Але нават у канцы XIX ст. суадносіны сіл у эканамічным, не кажучы ўжо аб палітычным, аспекце былі непараўнальныя: слабасць этнічнабеларускай буржуазіі была відавочнай. Да таго ж, яна павялічвалася канфесійным расколам. Сярод праваслаўнай часткі пад уплывам урада і дзейнасці царквы распаўсюджвалася ідэалогія «заходнерусізму», а сярод каталікоў — ідэя аб прыналежнасці беларусаў да польскага этнасу з адпаведнай палітычнай арыентацыяй. Ідэі беларускага нацыянальна-культурнага адраджэння і барацьбы за стварэнне беларускай дзяржавы, сфармуляваныя нацыянальнай інтэлігенцыяй у другой палове XIX ст., не знайшлі падтрымкі ні ў памешчыкаў, ні, тым больш, у гарадскіх, яўрэйскіх купцоў і прамыслоўцаў, ні ў асяроддзі сялянскай па паходжанні аграрнай буржуазіі. Гэтым тлумачацца галоўныя асаблівасці беларускага нацыянальнага руху.

Як ужо адзначалася, новая беларуская літаратурная мова пачала складвацца ў першай палове XIX ст. на аснове жывой, дыялектнай народнай мовы. Значны ўклад ў яе станаўленне ўнеслі невядомыя аўтары паэм «Энеіда навыварат» і «Тарас на Парнасе», пісьменнікі Ян Чачот, Ян Баршчэўскі, В. Дунін-Марцінкевіч і інш. Важнейшым сродкам развіцця літаратурнай мовы з’яўляецца друк. У канцы 50-х — пачатку 60-х гадоў з’явіліся першыя падпольныя агітацыйныя выданні на беларускай мове. Выдатную ролю ў развіцці беларускай публіцыстыкі адыгралі «Мужыцкая праўда» К. Каліноўскага і яго «Пісьмы з-пад шыбеніцы».

У 60—90-я гады XIX ст. намаганнямі І. Насовіча, М. Дзмітрыева, Ю. Крачкоўскага, А. Семянтоўскага, П. Шэйна, М. Нікіфароўскага, М. Доўнар-Запольскага, Я. Карскага, М. Федароўскага, Е. Раманава і многіх іншых даследчыкаў былі сабраны і апублікаваны унікальныя па багацці і навуковай каштоўнасці матэрыялы пра мову і духоўную культуру беларусаў, якія насуперак афіцыйным установам аб’ектыўна засведчылі факт існавання самастойнага беларускага этнасу.

З публікацыі ў 1889 г. на старонках газеты «Минский листок» паэмы «Тарас на Парнасе» пачалося пэўнае ажыўленне падцэнзурнага беларускамоўнага друку. У другой палове 90-х — пачатку 900-х гадоў гэта паэма набыла незвычайную папулярнасць, пра што сведчаць тры выданні яе ў Віцебску, два ў Гродне і два ў Магілёве. У Пецярбургу ў 1903 г. выйшаў з друку зборнік паэзіі Янкі Лучыны (Івана Неслухоўскага) «Вязанка».

Пры нешматлікасці і нават выпадковасці легальных публікацый на беларускай мове істотнае значэнне ў станаўленні беларускай літаратурнай мовы набывалі бесцэнзурныя публікацыі, якія ажыццяўляліся ў іншых краінах. Пераважна гэта былі агітацыйныя выданні, што выходзілі ад рэвалюцыйных народніцкіх арганізацый (брашуры «Пра багацтва і беднасць», Жэнева, 1881; «Дзядзька Антон», Тыльзіт, 1892; «Гутарка аб тым, куды мужыцкія грошы ідуць», «Хто праўдзівы прыяцель беднага народу», «Як зрабіць, каб людзям стала добра на свеце», Лондан, 1903). Гэтыя і іншыя нелегальныя выданні садзейнічалі распрацоўцы і замацаванню ў беларускай літаратурнай мове новай грамадска-палітычнай і навукова-эканамічнай лексікі і агітацыйнага стылю.

З-за цэнзурных умоў не мог публікаваць свае мастацкія творы ў Расіі Францішак Багушэвіч (1840—1900). Першы зборнік яго вершаў «Дудка беларуская» выйшаў у свет у 1891 г. ў Кракаве, другі — «Смык беларускі» ў 1894 г. у Познані. Невядомы лёс трэцяга зборніка вершаў («Скрыпачка беларуская»), а таксама зборніка «Беларускія апавяданні Бурачка», які ў канцы 90-х гадоў падаваўся ў цэнзуру, але дазволу на публікацыю не атрымаў. У прадмове да сваёй «Дудкі» Ф. Багушэвіч першы з беларускіх пісьменнікаў заявіў аб існаванні беларускага народа, акрэсліў этнічную тэрыторыю беларусаў, адзначыў самастойнасць беларускай мовы і прынцыповую яе роўнасць з мовамі іншых народаў, папярэдзіў свой народ аб тым, што, страціўшы сваю мову, ён як этнас загіне.

Ва ўмовах каланіяльнага становішча Беларусі, жорсткай русіфікатарскай палітыкі царызму і фактычнай забароны беларускамоўнага друку аж да часу рэвалюцыі 1905—1907 гг. працэс фарміравання беларускай літаратурнай мовы ў XIX ст. яшчэ далёка не завяршыўся.

У другой палове 50-х гадоў беларускі нацыянальна-культурны рух пачаў паступова перарастаць у палітычны. Беларускае нацыянальнае пытанне ў сувязі з польскім, літоўскім, украінскім ставілася на сходах зямляцтваў і гурткоў рэвалюцыйнай моладзі з ліку ўраджэнцаў заходніх губерняў, якія займаліся ў вышэйшых навучальных установах Пецярбурга. Адпаведная інфармацыя паступала, у прыватнасці, у рэдакцыю часопіса «Колокол» і з’явілася падставай для пастаноўкі А. І. Герцэнам, М. А. Бакуніным і М. П. Агаровым на перагаворах з прадстаўнікамі Варшаўскага цэнтральнага нацыянальнага камітэта (ЦНК) у пачатку 60-х гадоў пытання аб праве на самавызначэнне свайго лёсу былым «правінцыям» Рэчы Паспалітай — Літве, Беларусі і Украіне як адной з галоўных мэт і ўмоў поспеху паўстання. Актыўнымі ўдзельнікамі польска-літоўска-беларускіх гурткоў ў Пецярбургу ў той час былі браты Віктар і Канстанцін Каліноўскія.

У Літоўскім правінцыяльным камітэце (ЛПК), які ўзначальваў падрыхтоўку паўстання на Беларусі і ў Літве, у канцы 1862 г. ішлі гарачыя спрэчкі з прадстаўніком Варшаўскага ЦНК аб вырашэнні нацыянальнага пытання, прычым старшыня ЛПК К. Каліноўскі настойваў на ўстанаўленні цалкам раўнапраўных адносін Вільні з Варшавай, выстаўляў патрабаванне аб утварэнні самастойнай Літоўска-Беларускай рэспублікі, на што польскія нацыяналістычна настроеныя рэвалюцыянеры не пагаджаліся. З-за слабасці рэвалюцыйна-дэмакратычнай плыні К. Каліноўскі быў вымушаны падпарадкавацца Варшаўскаму нацыянальнаму ураду, прыняць і выконваць зацверджаную ім праграму паўстання, якая толькі ў самай агульнай і няпэўнай форме абяцала «ўсім братнім народам» самакіраванне.

Задушэнне паўстання 1863—1864 гг., гібель К. Каліноўскага на царскай шыбеніцы, масавыя рэпрэсіі і рэжым выключных законаў, устаноўлены на Беларусі, надоўга затрымалі развіццё беларускага нацыянальна-вызваленчага руху. Ён ажывіўся толькі ў канцы 70-х — пачатку 80-х гадоў, калі ў барацьбу ўступіла новае пакаленне рэвалюцыйных дэмакратаў. Перадавая беларуская моладзь народніцкага накірунку з ліку студэнтаў пецярбургскіх вышэйшых навучальных устаноў падпольна выдала ў той час некалькі публіцыстычных твораў («Да беларускай моладзі», «Да беларускай інтэлігенцыі», «Пісьмы пра Беларусь. Пісьмо першае» за подпісам «Даніла Баравік», «Пасланне да землякоў беларусаў за подпісам «Шчыры Беларус»), два нумары гектаграфаванага часопіса «Гоман». У гэтых творах была ўпершыню сфармулявана і тэарэтычна абгрунтавана ідэя існавання самастойнага беларускага этнасу, яго мовы і культуры і выказана гатоўнасць змагацца за правы Беларусі «на аўтаномную федэратыўную самастойнасць у сям’і іншых народнасцей Расіі».

Зімою 1902—1903 гг. на аснове нацыянальна-культурных гурткоў беларускай моладзі Менска, Вільні і Пецярбурга была ўтворана Беларуская сацыялістычная грамада. Да ліку стваральнікаў і кіраўнікоў яе адносіліся браты Іван і Антон Луцкевічы, Алаіза Пашкевіч (Цётка), Казімір Кастравіцкі (Карусь Каганец), Алесь Бурбіс, Вацлаў Іваноўскі, Фелікс Умястоўскі — у большасці студэнты, выхадцы з дробнай і сярэдняй шляхты. На І з’ездзе ў 1903 г. БСГ прыняла праграму, у якой характарызавала сябе як сацыяльна-палітычную арганізацыю беларускага працавітага народа. Сваёй мэтай яна абвясціла знішчэнне капіталістычнага ладу і пераход у грамадскую ўласнасць зямлі, сродкаў вытворчасці і камунікацыі, а бліжэйшай задачай — звяржэнне самадзяржаўя ў Расіі разам «з пралетарыятам усіх народаў Расійскага гасударства».

Па нацыянальным пытанні Грамада фактычна выказалася за ўтварэнне незалежнай Беларускай дэмакратычнай рэспублікі. Палітычную аснову яе павінны былі скласці: прамое, агульнае, роўнае выбарчае права з тайным галасаваннем, народнае заканадаўства, «спаўненне найвышэйшай уласці праз Канстытуцыйны сход», ліквідацыя пастаяннай арміі з заменай яе агульным народным апалчэннем, раўнапраўе ўсіх людзей незалежна ад полу, нацыянальнасці і веравызнання, бясплатны суд, выбарныя суддзі, падсуднасць чыноўнікаў, поўная свабода слова, сходаў, сяброўстваў, таварыстваў, забастовак і інш.

Па аграрным пытанні праграма БСГ патрабавала скасавання прыватнай зямельнай уласнасці, абвяшчала права кожнага чалавека на апрацоўку зямлі «сваімі рукамі без карыстання з чужой працы» і заяўляла аб неабходнасці адначасовай прапаганды «ідэі ўсестаронняга сябравання і таварыства» з мэтай пераходу да «сацыялістычнай гаспадаркі».

У праграме змяшчаліся таксама тыповыя для дэмакратычных і сацыялістычных партый сацыяльныя патрабаванні: 8-гадзіннага працоўнага дня, устанаўлення мінімуму заработнай платы, роўнай платы пры роўнай працы, дзяржаўнага страхавання ад няшчасных выпадкаў, па хваробе і старасці, бясплатнай медыцынскай дапамогі і інш.

Першая расійская рэвалюцыя суправаджалася ўздымам нацыянальна-вызваленчых рухаў прыгнечаных царызмам народаў, у тым ліку і беларускага. Ідэолагам, арганізатарам і кіраўніком беларускага нацыянальна-вызваленчага руху выступала Беларуская сацыялістычная грамада, якая фактычна з’яўлялася адзінай нацыянальнай палітычнай партыяй. У пракламацыях 1905 г. БСГ выступала за ўстанаўленне федэратыўнай дэмакратычнай рэспублікі з супольным соймам для ўсіх народаў за права кожнаму народу мець свой сойм, які «вёў бы яго справы».

*(Працяг будзе.)*

## Вучымся!

*Мікалай КРЫЎКО*

## СЛОЎНІК СІНОНІМАЎ

ПАДМАЦАВАННЕ разм. (тое, што падмацоўвае сілу, надае бадзёрасці) *Шмат было і такіх* [*дзяцей*], *для каго... кубак кавы і лустачка хлеба былі адзіным падмацаваннем* (Брыль), ПАДМАЦУНАК разм. *Пасілкаваўшыся і раплаціўшыся за падмацунак, Андрэй павольна падыбаў у суд* (Колас), МАЦУНАК *Хлеб чорны, хлеб жытні,— Мацунак здаровы* (Броўка), ПАСІЛАК *Верш за вершам, і з паэтычнага маналога ўстае блакітны, сонечны дзень краіны з яго натхненнем, помыслам, працай, з яго танкаўскімі героямі — пастухамі, садоўнікамі, гэтымі тынкоўшчыцамі на рыштаваннях, што падчас абеду, разлажыўшы пасілак «на белым настольніку воблака», частуюць цябе* (Клышка).

ПАДМАЦАВАЦЦА (падмацаваць свае сілы ежай) [*Рыбак:*] *— Падмацуемся, калі пані старасціха частуе* (Быкаў), ПАДСІЛКАВАЦЦА разм. *Падсілкаваўшыся яблыкамі...* [*Пятро*] *рушыў далей і яшчэ да цямна мінаў балота, густы сасновы лес і прыйшоў у... вёску* (Шамякін), ПАСІЛКАВАЦЦА разм. *Стары сядзеў на прызбе ў кажусе і пасмоктваў сваю піпку, якой ён ніколі не выпускаў з рота, хіба толькі тады, калі садзіўся за стол пасілкавацца або калі спаў* (Колас), ПАДХАРЧАВАЦЦА разм. *Падхарчавацца бутэрбродамі.*— Незак.: **Падмацóўвацца, падсілкóўвацца, сілкавáцца, падхарчóўвацца.**— Параўнайце: Е с ц і, П е р а к у с і ц ь.

ПАДМЕСЦІ (метучы, ачысціць) *Пакуль прыбрала* [*Лена*] *у клубе, у бібліятэцы... пакуль падмяла дарожку ды пасыпала жоўтым пяском — звечарэла* (Ваданосаў), ВЫМЕСЦІ (старанна, акуратна) *Раніцаю да заняткаў і вечарам пасля заняткаў школу трэба чыста вымесці, нанасіць вады дзецям, а зімою і печ выпаліць* (Колас).— Незак.: **Падмятáць, вымятáць.**

ПАДМОКНУЦЬ (крыху намокнуць) *Калі падмокнуць запалкі, мы пераскачам... сёння, відаць, будзе для нас вераб'іная ночка* (С. Александровіч), ПАДМАЧЫЦЦА *Каб не падмачыцца, абавязкова, як на табурэціку, будзе сядзець стажок сена* (Кірэйчык).— Незак.: **Падмакáць, падмóчвацца.**

ПАДМУРАК (аснова з камення, бетону і пад., якая служыць апорай для сцен будынка, для станкоў і пад.) *А вунь відзён і падмурак нейкай стадолы: значыць, і тут, у гэтай баравой глушэчы, распачалі нешта будаваць* (Сабаленка), ПАДМУРОЎКА *Не было яшчэ падмуроўкі, і сцены стаялі на тоўстых, кароткіх палях* (Чорны), ПАДМУРА *У Замкавым прадмесці стаяў новы дамок на высокай падмуры з паленай цэглы* (Чорны).

ПАДМЯЦЬ (наваліўшыся, прыціснуць сабой, падсунуць пад сябе) *Вось...* [*камбайн*] *урэзаўся ў густую жытнюю сцяну, паваліў, падмяў яе пад сябе* (Васілевіч), ПАДЦІСНУЦЬ *На начлег прыедуць з коньмі... Пазбіраюцца ў сасоннік... Хто армяк пад бок падцісне і задрэмле...* (Дубоўка), ПАДАБРАЦЬ — *Калясом пакаціліся — то я яго пад сябе падбяру, то Сенька наверх выкарабкаецца* (Краўчанка).— Незак.: **Падмінáць, падціскáць, падбірáць.**

ПАДНАЛЕГЧЫ (шчыра ўзяцца за якую-н. работу) *Вострачы мянташкай касу,.. Васіль пусціў услед грабельнікам: — Сюды, бабкі, падналяжам разам* (Васілевіч), УЛЕГЧЫ [*Андрэй*] *сапраўды гэтак улёг у работу, што нават не глядзеў па баках* (Савіцкі). *Ціхон прамаўчаў, выкарпаў з гэбля стружку і зноў улёг габляваць* (Лобан).

ПАДНАЦІСНУЦЬ (ўзяцца за якую-н. работу з большым стараннем) *Пакуль праект удасканальваецца, на іншых аб'ектах паднаціснулі: жыллёвы гарадок будуем* (Дадзіёмаў), НАЛЕГЧЫ размоўнае (пачаць энергічна рабіць што-н., займацца чым-н.) [*Халуста*] *спачатку налёг на мяса, потым падсунуў да сябе міску з капустай і вычарпаў яе да дна* (Чарнышэвіч), НАЦІСНУЦЬ разм. (энергічна ўзяцца за што-н.) [*Мельнік:*] *— Я б на тваім месцы, Коля, націснуў бы на вучобу!* (Карпюк), НАВАЛІЦЦА (дружна ўзяцца за якую-н. работу) *«Трэба будзе дапамагчы...* [*Булаю*], *— рашыў Алесь, навалімся гамузам — справа рушыць хутчэй»* (Шыцік), НАКІНУЦЦА (пачаць з азартам, з прагнасцю рабіць што-н.) *Андрэй з нейкай лютасцю накінуўся на работу* (Шахавец). *Вёска хадзіла цяпер па ягады, а на грыбы яна накінецца пазней, калі баравікі пойдуць.* (М. Стральцоў). — Незакончанае трыванне: **Падналягáць, улягáць, паднаціскáць, налягáць, націскáць, навáльвацца, накідáцца і накíдвацца.**

ПАДНОЖЖА (ніжняя частка, аснова гары, скалы, узгорка і пад., прастора каля такой асновы) *Каля падножжа гары мы ўзялі лыжы на плечы* (Шамякін), ПАДЭШВА *Падэшва ж, нават калі да яе дакоціцца баласт падсыпкі, не будзе адпавядаць таўшчыні гары насыпу!* (Шынклер).

ПАДНЯБЕСНЫ (які сягае неба; які знаходзіцца ці адбываецца ў паднябессі) *У думках і ў душы* [*Сцяпана*] *Мая займала першае месца. Найлепшы замак на паднябесным краявідзе начных гор ён аддаў ёй* (Дуброўскі). *Паднябесны палёт*, ПАДНЕБНЫ разм. *Шчаслівы, хто адвагу мае з паднебнай высі ўзяць разгон* (Гаўрусёў).

ПАДНЯЦЦА (дасягнуць больш высокага грамадскага становішча) [*Сцяпан:*] *— Яна, брат, у нас паднялася. Звенявая* (Ракітны), УЗНЯЦЦА *З нашай радні найвышэй усіх узнялася цётка Куліна* (Навуменка), УЗВЫСІЦЦА *Веру: працай сваёю ўзвысішся ты, Як над стэпам бяскрайнім Цянь-Шаня хрыбты* (Панчанка), УЗНЕСЦІСЯ узмацняльнае *Абпальвае каля вагранак, Гартуе душы пакрысе. І верыш: позна ці то рана Такімі ж станем, як і ўсе. І можа хто ўзнясецца строма, А хто прыўзнімецца ледзь-ледзь... Нашто гадаць. Жыццю вядома, Каго і як і ў што адзець* (Чэрня). — Незак.: **Падымáцца, паднімáцца, узнімáцца, уздымáцца, узвышáцца, узнóсіцца.**

*Пры кансультацыі заслужанага работніка народнай адукацыі Беларусі, доктара філалагічных навук, прафесара Леаніда Іванавіча БУРАКА*

УДАКЛАДНІМ

## Знакі прыпынку пры зваротку

1. Калі зваротак знаходзіцца ў пачатку сказа, то пры звычайнай інтанацыі пасля яго ставіцца коска: *Сонца, умыйся расою на світальнай зары* (А. Бялевіч).

Калі ж зваротак, які знаходзіцца ў пачатку сказа, суправаджаецца ўзмоцненай інтанацыяй, тады пасля зваротка ставіцца клічнік, а наступнае слова пішацца з вялікай літары: *Лесе мой шумны! Можа нікому я столькі не вінен, як табе* (М. Танк). *Радзіма мая дарагая! Красуйся і ў шчасці жыві!* (А. Бачыла).

**Заўвага.** Напісанне малой літары пасля клічніка не з'яўляецца нарматыўным: *Арцём! ці добра табе там?* (Якуб Колас).

2. Зваротак, які знаходзіцца ў сярэдзіне сказа, выдзяляецца коскамі з абодвух бакоў: *Пралятайце, гады, залатымі агнямі* (М. Багдановіч). *Спі, маці-зямля, пасля дзённае зморы* (А. Звонак). *Ляці ж, наша песня, ад вёскі да вёскі* (М. Машара).

3. Калі зваротак знаходзіцца ў канцы сказа, то перад ім ставіцца коска, а пасля яго — той знак прыпынку, які патрабуецца зместам і інтанацыяй усяго сказа: *Чаму птушак не чуваць, людцы дарагія?* (Янка Купала). *Звіні, вясёлых бомаў медзь!* (М. Багдановіч).

4. Калі зваротак адносіцца да асабовых займеннікаў **ты, вы,** то незалежна ад іх размяшчэння ў сказе ён аддзяляецца або выдзяляецца знакамі прыпынку на аснове агульнага правіла: *Ты не гніся, брат, ніколі траўкаю пахілай* (Якуб Колас.). *Ці добра, людзі, вы абуты?* (Якуб Колас). *Сябры мае! Вы палі гэтак рана, але як зоры свеціце для нас* (П. Прыходзька).

**Заўвага.** Асабовыя займеннікі **ты, вы** самі могуць выступаць у ролі зваротка, тады пасля іх звычайна ставіцца клічнік: *Гэй, ты! Ідзі да нас* (М. Чарот). *«Эх, вы! Чаго расшумеліся?» — прамовіў пісар і ўсміхнуўся* (Якуб Колас).

Калі ж асабовыя займеннікі **ты, вы** цесна звязаны з назоўнікам або назоўнікавым словазлучэннем, то яны сумесна выконваюць ролю зваротка і сумесна аддзяляюцца або выдзяляюцца знакамі прыпынку: *Зямля ты наша, упрыгожым, у сад абернем мы цябе!* (Якуб Колас). *Увайшла гэта я, мае вы людцы, у цёмны лес* («Народная творчасць»). *Мае вы госці дарагія! Давайце песню мы спяём* (М. Зарэцкі).

Пры паўтарэнні назоўніка ў складзе зваротаў асабовыя займеннікі **ты, вы** прымыкаюць да яго зыходнай формы і аддзяляюцца знакамі прыпынку разам з ёй, напрыклад: *Бярозы вы, бярозы, чаму не шуміце?* (У. Хадыка). *Лета ты, лета прыгожа-квяцістае, колькі ты ўносіш аздобы з сабой* (Янка Купала). *Магутнае слова ты, роднае слова! Са мной ты наяве і ў сне* (Янка Купала).

*(Заканчэнне будзе).*

*Жывое слова*

## МАТРУНА. МАТРОНА

Менавіта ў такой форме распаўсюджана ў нас на Беларусі вядомае жаночае імя. У расійцаў яно гучыць крыху інакш — *Матрёна.* Адсюль і назва вядомай расійскай цацкі — *матрёшка.* Некаторыя не вельмі патрабавальныя да слова журналісты гэтае слова амаль жыўцом пераносяць у нашу мову, і мы часта чуем ды чытаем па-беларуску — *матрошка.* А ці ўсе ў гэтым слове моўныя элементы адпавядаюць законам беларускай мовы, граматыкі? Скажам, суфікс **-ш-**. Можа, па-беларуску больш правільна было б расійскую форму *матрёшка* перадаваць як *матронка?!*

Пэўна, ёсць сэнс пра гэта падумаць, паразважаць. Хай бы і яшчэ адно набыло б больш адпаведнае роднай мове гучанне. Доўга ж мы, скажам, карысталіся імем *Золушка* ў расійскай транскрыпцыі — і не здагадваліся, што яно з нямецкай мовы, а беларускі адпаведнік яму — *Папялушка...*

Але вось знайшоўся дасведчаны мовазнаўца, патлумачыў, што імю вядомай казачнай гераіні ёсць беларускі адпаведнік. І імя *Папялушка* адразу прыжылося, прынялося мовай, народам.

Між іншым, калі да слова прыйшлося: сама цацка матронка родам зусім не з Расіі, а з Кітая. А ў Расію трапіла выпадкова. Уладальніца цацачнай крамы А. Мамантава, жонка вядомага прамыслоўца і мецэната Савы Мамантава, заказала ў абрамцаўскай майстэрні шэраг драўляных лялек, якія ўкладваліся б адна ў адну. Цацка нечакана атрымала вялікую папулярнасць. З 1890 года ў Расіі пачалася масавая вытворчасць гэтых размаляваных весялух. Так што, ведаючы гісторыю матронак, трэба паклапаціцца, каб назва гэтая гучала ў належным моўным беларускім суладдзі.

...Матруна, Матронка, Мотра, Моця... Эквівалентаў для расійскай «Матрёшкі», як бачым, у беларусаў шмат.

**Ул. СОДАЛЬ.**

*Перавыданні*

## Людзі плакалі...

але не сёлета, і не на выставе «Беларуская кніга-93», дзе 17 сакавіка адбылася прэзентацыя першага факсімільнага выпуску славутай газеты «Наша Ніва». Прэзентацыю наладзілі Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь і выдавецтва «Навука і тэхніка», намеснік галоўнага рэдактара якога Зміцер Санько і вёў імпрэзу.

Спадар Санько, ініцыятар факсімільнага перавыдання газеты, так акрэсліў яе значэнне: «Наша Ніва» — гэта не звычайная газета, гэта — гістарычная з'ява, дзякуючы якой наш народ, па сутнасці, і ўсвядоміў сябе еўрапейскай нацыяй». Але ў рэспубліцы няма камплекта газеты. Таму і ўзнікла неабходнасць факсімільнага выдання.

Для першага выпуску асобныя нумары газеты пазычылі бібліятэкі, архівы, калекцыянеры — аматары беларускіх старадрукаў. Адзін з іх — вядомы даследчык Янка Саламевіч — на ўра чыстасці сказаў, што выдаўцы газеты, яе стваральнікі дакляравалі служэнне ўсяму нашаму скрыўджанаму народу, і газета годна выконвала сваю ролю. «Наша Ніва» не толькі змагалася за паляпшэнне жыцця беларусаў, але стала сапраўдным народным універсітэтам. Яна прапагандавала беларускае слова: друкавала творы маладых беларускіх адраджэнскіх творцаў ды іх пераклады славутых на ўвесь свет пісьменнікаў і паэтаў. Газета прапагандавала і гаспадарчы вопыт, далучала наш народ да сусветнай культуры, прыкладам, адзначала юбілеі Талстога, Дарвіна і шмат каго яшчэ.

Але, што мала каму вядома, газета «Наша Ніва» выдавала і кнігі, пераважна зборнікі першых твораў Янкі Купалы, Максіма Багдановіча ды іншых. У 1910 годзе асобнай кніжкай выдавецтва «Нашай Нівы» выдала верш Янкі Купалы «А хто там ідзе?» з нотамі кампазітара Рагоўскага. Янка Саламевіч згадаў і пра рэакцыю простых людзей на выхад «Нашай Нівы». Яна была такой жа, як і ў першых тэатрах усіх славянскіх народаў — людзі плакалі.

**З. СІЦЬКО.**

*Але!*

# БЕЛАРУСКАЕ МОВАЗНАЎСТВА АД ... 1586 года

Чаму ў час стварэння Статутаў 1529, 1566 і 1588 гадоў, беларускіх летапісаў XVI—XVIII стагоддзяў была напісана толькі адна мовазнаўчая праца па беларускай мове і некалькі па царкоўнаславянскай? Такое пытанне ўзнікла ў мяне, калі я чытаў артыкул члена-карэспандэнта А. І. Жураўскага «Беларускае мовазнаўства ў XVI—XVIII стст.», надрукаваны ў снежаньскім нумары (3.93) «Весніка БДУ. Серыя 4».

Мне, дылетанту, уяўляецца, што іх было шмат, але тагачасныя працы па беларускай мове яшчэ не адшуканы, і даследчыкаў чакаюць адкрыцці. Знайшлі ж «Граматыку» Івана Ужэвіча, у якой выкладзены граматычны матэрыял нашай мовы ў параўнанні з лацінскай. Бо, сапраўды, цяжка паверыць, каб складаная, навуковая работа «юрыстаў-практыкаў, вучоных, службовых асоб, буйных магнатаў», якія рыхтавалі — на беларускай мове — усе рэдакцыі Статута ВКЛ, аніяк не закранула мовазнаўчых праблем. Відаць, вымушаны былі выпрацоўваць і тэрміналогію: складаўся ж асноўны закон Вялікага Княства Літоўскага, які дзейнічаў амаль трыста гадоў — да 1840 года. Таму цалкам верагодна, што да Івана Ужэвіча (яго праца стала вядомай у 1643 г.) хтосьці ужо ўнармаваў беларускую мову, а Ужэвіч толькі выкарыстаў гатовы матэрыял.

Інакш цяжка уявіць сабе напісанне беларускіх летапісаў, міжнародных дакументаў. А вядома, што на беларускай мове пісалі не толькі ў велікакняжацкай канцылярыі, але і, пачынаючы ад Ягайлы і да XVI стагоддзя, на кракаўскім Вавелі. На беларускай мове складзены дамовы пачатку XIII стагоддзя Полацка і Смаленска з Рыгаю і Гоцкім берагам, прывілеі польскага караля Ягайлы. На беларускай мове вялася тады дыпламатычная перапіска з некаторымі еўрапейскімі краінамі і з Ардой. Вядома, прыкладам, і пасланне 1392 (1393) года хана Залатой Арды Тахтамыша польскаму каралю Ягайлу, напісанае на беларускай мове беларускім паўуставам.

Без унармавання беларускай мовы, без існавання нейкага «падручніка» па граматыцы нашай мовы нельга уявіць сабе ні Скарынінскіх перакладаў Бібліі, ні Нясвіжскага «Катэхізіса», зробленага Сымонам Будным, ні — асабліва — Берасцейскага выдання Бібліі, над якім працавалі вучоныя са шмат якіх еўрапейскіх краін. Відаць, былі распрацаваны нейкія нормы і правілы правапісу.

На жаль, пра гэта не напісаў аўтар артыкула ў «Весніку». Яго цікавіць іншае. «Паспяховае выкарыстанне царкоўнаславянскай мовы стрымлівалася яе поўнай граматычнай нераспрацаванасцю», што і прымусіла Л. Зізанія, М. Сматрыцкага «прыняцца за нармалізацыю царкоўнаславянскай мовы». І ўжо ў 1586 годзе ў Віленскай друкарні Мамонічаў быў надрукаваны даведнік «Кграматыка словеньска языка»...

Чытаю далей артыкул А. І. Жураўскага і дзіўлюся: «Вяршыняй мовазнаўчай навукі на Беларусі пачатку XVII ст. з'явілася «Грамматіки славенския правилное синтагма» М. Сматрыцкага, выдадзеная ў 1618 годзе ў Еўі каля Вільні. Што праўда, «Граматыка» М. Сматрыцкага была сапраўды каштоўным навуковым дасягненнем, тым больш, што яе аўтар разглядаў тую форму царкоўнаславянскай мовы, якая ўжывалася на Беларусі і на Украіне ды змянілася пад уплывам народнай мовы. «Граматыка» М. Сматрыцкага спрыяла развіццю мовазнаўства ў славянскіх краінах, была выдадзена ў Маскве (1648 і 1721 гады). Яе разам з іншымі беларускімі падручнікамі назваў «вратами учёности» М. Ламаносаў.

Чаму не стала такой «вяршыняй», калі прыняць адэнку шаноўнага члена-карэспандэнта, «Граматыка словенская» Івана Ужэвіча? Але хто можа гэта ацаніць? Сам А. І. Жураўскі піша: «Значнасць і адметнасць Ужэвічавай «Граматыкі» — «выклад граматычнага матэрыялу ў супастаўленні з лацінскай мовай, у чым можна бачыць зародак параўнальнай граматыкі славянскіх моў». Вось бяда толькі, што «ў беларускім мовазнаўстве «Граматыка» І. Ужэвіча амаль не заўважана». Яе вывучалі украінскія даследчыкі, якія, вядома ж, лічаць І. Ужэвіча сваім. Беларускім жа мовазнаўцам гэты каштоўны твор І. Ужэвіча быццам бы не патрэбны. Затое яго даследаваў вядомы англійскі славіст Дж. Дынглі.

Чытачы будуць шчыра ўдзячны спадару Жураўскаму, што ён яшчэ раз нагадаў: «Англійскі даследчык пераканаНЫ, што адлюстраваная ў «Граматыцы» І. Ужэвіча мова з'яўляецца літаратурна-пісьмовай мовай Вялікага Княства Літоўскага і яе трэба прызнаць часткай лінгвістычнай спадчыны Беларусі». Той жа заморскі даследчык «устанавіў таксама, што сам І. Ужэвіч паходзіў з паўднёва-заходняй часткі Беларусі».

Але карціць запытацца ў шаноўнага аўтара артыкула пра беларускае мовазнаўства ад 1586 года: ці не пара даследаваць і дарobак іншых руплівцаў,— тых, якія вучылі беларускіх дзетак разумець мову навукі — лаціну. Няўжо шаноўны і сур'ёзны даследчык не чуў пра Яна Ліцынія Намыслоўскага, рэктара Іўеўскай арыянскай акадэміі, які напісаў падручнік па лацінскай, польскай і нямецкай мовах (выдадзены ў Лоску, што цяпер у Валожынскім раёне, у 1589 г.). Магчыма, той падручнік і не заслугоўвае, каб яго называлі «вяршыняй» мовазнаўства, але каласы нашага «залатога веку»раслі і на раўніне.

**П. ПАШКАВЕЦ.**

*Абмяркоўваем «Выніковы дакумент Дзяржаўнай камісіі па ўдакладненні правапісу беларускай літаратурнай мовы»*

# Нашы прапановы

***Рада Таварыства беларускай мовы горада Барысава на сваім чарговым пасяджэнні 11 сакавіка 1994 года разгледзела пытанні ўдасканалення правапісу беларускай мовы і выpашыла ў цэлым пагадзіцца з «Выніковым дакументам Дзяржаўнай камісіі па ўдакладненні правапісу беларускай літаратурнай мовы» (п. 2, 3, 4, 5, 8, 9, 12).***

***Разам з тым мы лічым патрэбным унесці свае заўвагі, удакладненні.***

***1. Варыянт 1в правапісу змякчальнага мяккага знака дапоўніць правілам: раздзяляльны мяккі знак пішацца пасля С, З, Н, Л перад Е, Ё, Ю, Я, а таксама І, калі яно націскное:*** *бязьядзерны, маньяк, зь імі* ***(гл. каляндар «Родны край» за 1993 г. «Дзесяць памятак беларускага правапісу» В. Вячоркі).***

***2. З пункта 6 выключыць другі абзац.***

***3. Пункт 7 даць у такой рэдакцыі: узмацняльную часціцу і злучнік І абазначыць літарай Й, калі папярэдняе слова заканчваецца на галосны.***

***4. Пункт 10 замяніць на пункт 4 «Дзесяці памятак беларускага правапісу» В. Вячоркі («Родны край», 1993 г.).***

***5. З пункта 11 выключыць абзац 3.***

**Барысаўская гарадская рада
Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны.**

# Праз «слату і нягоды»

Вучоныя лінгвісты з Дзяржаўнай камісіі па ўдакладненні правапісу беларускай літаратурнай мовы прапануюць зважаць на прынцыпы навуковасці, павагі да традыцый, натуральнасці маўлення і зручнасці карыстання літаратурнай мовай. Вучоным — навуковасць, а як мне, сёлетняму выпускніку школы,— проста цікава, ці пазнаю я родную мову ў новым адзенні. Натуральнасць маўлення, скажу вам, адчуваю добра, вывучаю мову і з хваляваннем чытаю вершы зборніка «Каласы роднай мовы», у якіх паэты заклікаюць шанаваць і зберагаць моўнае багацце. Мне трэба добра вывучыць мову, авалодаць як след арфаграфіяй ды пунктуацыяй, бо не за гарамі дзень, калі стану абітурыентам. Пішу сачыненні, наведваю падрыхтоўчыя курсы ў БДУ. І нічога недарэчнага пакуль у правапісе не заўважаў. Правілы на тое і правілы. І выключэнні мяне не бянтэжаць надта: арфаграфіі без іх не абысціся.

Натуральнасць маўлення павінна адлюстроўвацца на пісьме (*люцкі, узбецкі, ва універсітэце, лягенда, ня чуў, бяз следу*). Арфаграфічны воблік слоў часам шкодзіць нарматыўнаму вымаўленню.

І замежнае слова хай спазнае мілагучнасць нашай мовы, хай пашырыцца беларускае аканне (*старублёвы, фатакартка, матакрос*). Нашто размяжоўваць напісанні *доўгабароды* і *даўгавусы, тонкасуконны* і *танкаструнны?* Без пабочнага націску так лёгка вымаўляецца і пішацца: *вадаправод, вадазабеспячэнне, чарнабароды, разнабаковы, дабразычлівы, дабраахвотна.*

Дзіўны лёс у нашага мяккага знака! Паводле новага ўзору захацелася напісаць старонку тэкста. Божа мой, колькі мяккіх знакаў! Некаторыя словы не пазнаць: *разьвітаньне, узьнёсласьць, усьведамленьне...* Школьніку не так лёгка справіцца нават з вымаўленнем, якое ўнармавана і стала звычным. Узяўся чытаць-перачытваць напісаны тэкст і пачаў спатыкацца, асабліва ў фанетычным падаўжэнні зычных. Я лёгка і з нейкай асалодай паўтараю: *фанетычнае падаўжэнне ў інтэрвакальным становішчы, адзін падоўжаны гук.* А ў мяне і *вяселле*, і *радасцю*, і *свята*, і *разводдзе.* Мяккі знак псуе працяжнасць гукаў, разрывае мяккасць суседніх гукаў?

О, каб гэта мне ў дзяцінстве было ад каго чуць мяккае (не пазычанае) вымаўленне зычных, абыходзіўся б я без мяккага знака і правільна гаварыў бы: *с'нег, с'мех, с'лед.* Можа, звыкнемся з мноствам мяккіх знакаў? Але, як мне здаецца, прыгожа глядзяцца словы, навошта ім новае адзенне? А нам, хто душою памкнуўся да роднае мовы, варта толькі папрактыкавацца ў вымаўленні такіх слоў. (Можа, дыктары беларускага радыё і будуць мець клопат — карыстацца беларускай мовай не толькі перад мікрафонам?)

Няхай мяккі знак поўнаўладна (так і хочацца напісаць *паўнаўладна!*) уваходзіць у прыметнікі, што ўтвораны ад назваў месяцаў ці ад геаграфічных назваў — розніцы тут няма: *ліпеньскі, хатыньскі, ланьскі!..*

Кажыце свае слова, беларускія вучоныя, якім быць нашаму правапісу? У ім наша гісторыя, лёс роднай мовы. Толькі хочацца каб не замарудзілася навучанне нашай мове. У нашай школе яна робіцца гаспадыняй.

Чытаю «Жалейку» Янкі Купалы, Багдановічаў «Вянок» у факсімільным выданні, цяпер пабачыў «Нашу Ніву». Дык вось яна, жывая наша мова! І не дзіва арфаграфія! Праз «слату і нягоды» ішоў ды ідзе шлях роднага слова і яго правапісу.

**Сяргей КІЕНЯ,
вучань 11-га класа 171-й школы.**
г. Менск.

# Факультэт беларускай філалогіі і культуры Беларускага педагагічнага універсітэта

### *Кафедра беларускага мовазнаўства*

З 1982 г. да верасня 1993 г. загадваў кафедрай Яўневіч Міхаіл Станіслававіч — доктар філалагічных навук, прафесар, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі БССР, узнагароджаны медалём Францыска Скарыны.

Асноўныя працы: «Сінтаксічная сінаніміка», Мн., 1977, «Сінтаксіс сучаснай беларускай мовы» (у сааўтарстве), Мн., 1987, «Беларуская мова» (у сааўтарстве), «Беларуская мова» — падручнікі для школ, VI—VII і VIII—IX класы.

З верасня 1993 г. загадвае кафедрай Міхайлаў Павел Аляксандравіч — кандыдат філалагічных навук, дацэнт.

Асноўныя працы: «Тураўскі слоўнік» (у сааўтарстве), т. 1—5; «Слоўнік беларускіх гаворак паўночна-заходняй Беларусі і яе пагранічча», т. 1—5 (у сааўтарстве); «Лексічны атлас» (у сааўтарстве), Мн., 1993.

На кафедры працуе 30 выкладчыкаў, з іх: прафесараў — 1, дацэнтаў — 11, ст. выкладчыкаў — 1, асістэнтаў — 7.

### *Кафедра тэорыі і гісторыі культуры*

На кафедры працуе 12 выкладчыкаў, з іх: прафесараў — 2, дактароў навук — 1, дацэнтаў, кандыдатаў навук — 3, ст. выкладчыкаў — 2, выкладчыкаў — 2.

Загадчык кафедры прафесар Рагуля Аляксей Уладзіміравіч.

Асноўныя яго працы: «Беларуская літаратура ў IV класе», Мн., 1980; «Методыка выкладання беларускай літаратуры», Мн., 1986; «Родная літаратура. Падручнік-хрэстаматыя для VIII класа», Мн., 1990; «Імгненні...», Мн., 1990; «Пафас стапаўлення», Мн., 1991.

### *Кафедра беларускай літаратуры*

На кафедры працуе 20 выкладчыкаў, з іх: прафесараў, дактароў навук — 1, дацэнтаў, кандыдатаў навук — 11, ст. выкладчыкаў 2, асістэнтаў — 6.

Загадчык кафедры Мішчанчук Мікалай Іванавіч.

Асноўныя яго працы: «Беларуская літаратура на сучасным этапе», Мн., 1978; «Літаратура, народжаная Кастрычнікам», Мн., 1983; «Беларуская савецкая паэзія 20-х гадоў», Мн., 1988; «Ёсць у паэта свой аблог цалінны», Мн., 1992; «Чатыры партрэты беларускіх паэтаў-эмігрантаў», Мн., 1993.




*Рубрыку вядзе*
*Лявон БАРШЧЭЎСКІ*

Паэтычнае майстэрства Івана Буніна (1870—1953) і сёння мае шмат прыхільнікаў...

*Іван БУНІН*

* * *

Дагарае красавіцкі вечар,
Змрок халодны сунецца на луг.
Спяць гракі; далёкі пошум рэчкі
Таямніча ў цемені заглух.

Пахне рунню ядрана і свежа
Маладзы азяблы чарназём,
І цячэ над палявым бязмежжам
Зорны свет — маўчання адбіццём.

Ціхаю вадой лагчыны свецяць,
Зоркі ў іх люстрана зіхацяць,
Жураўы, з начлегам на прыкмеце,
Зморана гукаючы, ляцяць.

А вясна затоена чакае
Заранiцу ў маладым гаі —
Слухае шапоткіх дрэў дыханне
І глядзіць у цёмныя палі.

Чым дзень цяплей, тым саладзей настрой,
Сухі, смалісты, у бары ўдыхаю

## Дзяцінства

І ў сонечных харомах раніцой
Нястомна я і весела блукаю.

Паўсюды зззянне і святла палёт.
Пясок — як шоўк... Я да сасны гарнуся
І адчуваю, што мне дзесяць год,
А ствол — магутны, векавечны, мусіць...

Кара ў маршчынах, з высечкай грубой,
Ды цёплая, сагрэтая пяшчотна.
І мне здаецца: пахне не сасной,
А сонечным святлом, сухім, спякотным.

*Пераклад з рускай Васіля ЗУЕНКА.*

* * *

І спякотны блакіт, і трава маладая,
І калоссе ў палях, і на кветках чмялі...
Прыйдзе час — бацька ў блуднага сына спытае:
«Ці шчаслівы ты быў у жыцці на зямлі?»

І забуду я ўсё — толькі ўспомню з надзеяй
Гэту вось прад жнівом залатую пару,
І ад слодычы слёз адказаць не паспею —
Ля каленяў патольных замру.

*Пераклад з рускай Хведара ЖЫЧКІ.*

# *Нехта спявау, нехта «журыў», а ўсё разам — «нацыянальны фестываль»,*
# або Што адбылося на «Залатой горцы-94»

Барды — гэтым словам, запазычаным з мовы старажытных кельтаў, у Беларусі, як і па ўсім свеце, называюць людзей, у творчасці якіх злучаюцца ў адно паэзія і музыка. У песнях аўтараў-выканаўцаў як нідзе раскрываецца прыгажосць слова, яго прывабнасць. Адметнасцю нашага часу стала нараджэнне цэлага пакалення спяваючых паэтаў, якія ствараюць свае песні на беларускай мове. Уздым хвалі творчасці беларускамоўных бардаў супаў у часе з уздымам у 80-х гадах новай хвалі нацыянальнага руху, і таму выступленні першых паэтаў з гітарамі — Сяргея Сокалава-Воюша, Эдуарда Акуліна, Вольгі Цярэшчанкі, Алеся Камоцкага, Зміцера Сідаровіча — збіралі поўныя аўдыторыі патрыятычна настроенай моладзі. Песні гэтых бардаў прыватным чынам тыражаваліся на магнітафонных касетах, бо былі своеасаблівай формай пратэсту супраць цэнзуры камуністычнай дзяржавы, супраць панавання расійскай мовы як інструмента імперскасавецкай ідэалогіі. А стваральнікі гэтых песень прыцягвалі да сябе ўвагу не толькі аматараў музыкі ды беларускага слова, але і адпаведных дзяржаўных органаў, у выніку чаго не адзін раз звальняўся з працы С. Сокалаў-Воюш, не магла атрымаць візу В. Цярэшчанка, запрошаная на канцэрты канадскім таварыствам «Беларусь».

Але час мяняўся. Напачатку 90-х гадоў называць сябе беларускім бардам стала не толькі бяспечна, але і прэстыжна. Нацыянальная аўтарская песня пачала гучаць у праграмах радыё і тэлебачання, са сцэн у вялікіх залах. У 1991 годзе быў праведзены першы фестываль на Крапівенскім полі, які, атрымаўшы назву «Аршанская бітва», зрабіўся традыцыйным святам аўтараў-выканаўцаў. З 1992 аўтарская песня пачала гучаць у праграмах творчых груп, арганізаваных Бюро прапаганды менскага Дома літаратара. У выніку вакол ДЛ узнік свой гурток аўтараў-выканаўцаў у складзе Кастуся Герашчанкі, Анатоля Кудласевіча, Ігара Дабравольскага, Алега Атаманава ды іншых.

У адрозненне ад бардаў ранейшага часу, малавядомыя дагэтуль спевакі з Дома літаратара праявілі значныя арганізацыйныя здольнасці, сумесна з супрацоўніцай Бюро прапаганды ДЛ Ядвігай Волкавай, арганізаваўшы ў лютым мінулага года конкурс бардаўскай песні і назваўшы яго рэспубліканскім. Удзел у конкурсе, які адбыўся ў тым жа Доме літаратара, брала мноства ўжо вядомых і папулярных выканаўцаў. Першае месца нечакана для ўсіх (акрамя, пэўна, арганізатараў) заняў сам Алег Атаманаў, затое без узнагарод засталіся вельмі цёпла прынятыя публікай Алесь Камоцкі і Віктар Шалкевіч. Незадаволены падобным размеркаваннем месцаў удзельнік журы паэт Анатоль Сыс учыніў скандал, памятны ўсім тады прысутным. Але справа была зроблена, і сёлета пераможца леташняга конкурсу разам з той жа Ядвігай Волкавай арганізавалі ўжо не проста конкурс, а тое, што яны назвалі «нацыянальным фестывалем аўтарскай песні».

Цяпер, калі фестываль ужо адбыўся, можна падвесці вынікі таго, што сабой уяўляла «Залатая горка-94». Мерапрыемства было абвешчана «нацыянальным фестывалем», што давала падставу меркаваць: яно мае не толькі матэрыяльную і арганізацыйную падтрымку дзяржавы, але і прадстаўляе канкурсантаў, якія выйшлі пераможцамі на рэгіянальных спаборніцтвах на ўзроўні раёнаў ці абласцей. Але, як высветлілася, ніякіх адборачных тураў не было. Удзельнікі фестывалю вызначаліся самімі арганізатарамі паводле вядомых толькі ім крытэрыяў. Акрамя таго, удзельнікі фестывалю былі падзеленыя на гасцей, у склад якіх трапілі амаль усе патэнцыяльныя лідэры, і менавіта канкурсантаў. Статус госця дазваляў «зоркам» выканаць са сцэны адну-дзве песні, але забараняў браць удзел у конкурсе. Таму атмасферу фестывалю стваралі не яны, а каля трох дзесяткаў канкурсантаў, у пераважнай большасці нікому невядомых пачаткоўцаў. Урэшце і гэта можна было б палічыць нармальным, калі б фестываль быў абвешчаны хай сабе і нацыянальным, але фестывалем маладых выканаўцаў. Але замест таго каб даць моладзі на роўных паспаборнічаць з «зоркамі», што забяспечыла б дастаткова высокі ўзровень нацыянальнага мастацтва, з ужо вядомых спевакоў да ўдзелу дапусцілі толькі Лану Медзіч, Андрэя Мельнікава, Зміцера Бартосіка і Ігара Мухіна-Рабянка, ужо дастаткова папулярных дзякуючы свайму ўдзелу ў аршанскім бардаўскім фэсце, ды яшчэ Кастуся Герашчанку з агітбрыгады Дома літаратара. Практычна ўсе іншыя вядомыя барды засталіся па-за конкурсам ці ўвайшлі ў склад журы. Дарэчы, разам з Алесем Камоцкім, Эдуардам Акуліным ды Віктарам Шалкевічам, якія мелі пэўнае дачыненне да праграм Бюро прапаганды Дома літаратара, у склад журы ўвайшла большасць прадстаўнікоў аргкамітэта фестывалю. У выніку атрымалася, што з шаснаццаці «журыстаў» ніякага дачынення да арганізацыі «Залатой горкі» не мелі толькі чацвёра: журналісты Таццяна Сапач, Надзея Кудрэйка, Віктар Шніп ды Вітаўт Мартыненка. Ці паспрыяла гэта мастацтву? Меркаваць аб гэтым маглі дзесяткі тысяч тэлегледачоў, якія ўвечары 26 лютага ўключылі тэлевізары, каб убачыць трансляцыю гала-канцэрта фестывалю.

Што было прапанавана да ўвагі аматараў беларускай бардаўскай песні? Выступленне дуэта Парфенчыкаў, песня якіх «Беларусь мая — Белоруссия», перакладзеная з расійскай мовы, ужо прайшла крыжовы шлях на розных конкурсах. Спевы магілёўчаніна Сяргея Кулягіна і смаргонца Алега Мізулы, лірыка якіх вызначалася высокім патрыятызмам і нізкімі мастацкімі вартасцямі. Выступленне Уладзіміра Палупанава, які выканаў песню не на свае вершы, што абсалютна не ўласціва традыцыям аўтарскай песні. Песня Вольгі Патрый, якая выканала свой раманс пад акампанемент раяля, нягледзячы на тое, што яна ўвогуле не была пераможцай конкурсу. Гледачы ў зале і ля экранаў тэлевізараў убачылі, як узнагароджвае на сцэне сваіх удзельнікаў Галіну Смоляк і Уладзіміра Палупанава менскі клуб «Спадчына» і як быў адсунуты ад мікрафона гомельскі бард Зміцер Бартосік, якому не дазволілі атрымаць на сцэне прыз газеты ТБМ «Наша слова». Прыстойны ўзровень канцэрта дазволілі падтрымаць толькі выступленні ўжо вядомых аўтараў-выканаўцаў — Андрэя Мельнікава, Віктара Шалкевіча, Ланы Медзіч, Алеся Камоцкага ды іншых...

Фестываль не ўдаўся. Галоўнымі прычынамі сталі творчая слабасць удзельнікаў, а таксама залежнасць журы ад арганізатараў. Таму трохі аб тым, што папярэднічала заключнаму канцэрту і што засталося па-за ўвагай гледачоў.

Раніцай 26 лютага адбыўся конкурсны прагляд удзельнікаў фестывалю, большасць выступленняў якіх выклікала ў журы сумнае ўражанне. Цяжка было нават вызначыць чым горш: гітарай ці беларускай мовай валодала большасць канкурсантаў. Выклікала сумненне прыналежнасць пяру выканаўцаў тэкстаў мноства песень, бо па-за сцэнай іх аўтары не маглі звязаць па-беларуску двух слоў. Іншыя аўтары ратаваліся, беручы тэксты песень ці не са школьных хрэстаматый. Былі, канешне, і выключэнні, але яны толькі падкрэслівалі невысокі агульны ўзровень удзельнікаў.

Наслухаўшыся спеваў, удзельнікі журы ўзяліся за вызначэнне пераможцаў. Замест адкрытага выстаўлення балаў кожнаму ўдзельніку старшыня журы Алег Атаманаў прапанаваў паасобнае абмеркаванне вылучаных ім кандыдатур. Выбухнулі спрэчкі і ўрэшце было вырашана карыстацца складанай сістэмай абагульнення спісаў магчымых пераможцаў, складзеных кожным з сяброў журы з наступным выстаўленнем адзнак кожнаму выканаўцу з агульнага спіса шляхам галасавання. Напачатку было вырашана абраць восем пераможцаў: пяць лаўрэатаў і трох дыпламантаў. Але па выніках галасавання прахадны бал — сем ці звыш — яго набралі толькі шэсць выканаўцаў: К. Герашчанка — 11, А. Мельнікаў — 9, З. Бартосік — 9, Л. Медзіч — 8, І. Мухін-Рабянок — 7, Ю. Гайдамакаў — 7.

Падобны стан рэчаў выклікаў абурэнне Алега Атаманава. Ад журы ён запатрабаваў перагледзець вынікі галасавання, вывесці са складу пераможцаў Зміцера Бартосіка і ўвесці туды іншых выканаўцаў. Пачуўшы падобную прапанову, аб выхадзе са складу журы заявіў музычны аглядальнік газеты «Чырвоная змена» В. Мартыненка. Адмовіліся браць удзел у галасаванні паэтка і журналістка літоўскага тэлебачання Т. Сапач, журналістка беларускага радыё Н. Кудрэйка ды паэт В. Шніп. Не прагаласаваў і яшчэ адзін з удзельнікаў журы — бард Алесь Камоцкі. Але гэтыя пяць галасоў не былі вырашальнымі. Бок старшыні журы ўзялі госці фестывалю і сябры журы з Расіі і Украіны, якія чакалі доларавых ганарараў за ўдзел у канцэрце і не збіраліся псаваць адносін з арганізатарамі фестывалю. Іншыя «журысты» — пераважна ўдзельнікі аргкамітэта — падтрымалі свайго старшыню, які склаў новы спіс пераможцаў: К. Герашчанка (папярэдне 11 балаў), А. Мельнікаў (папярэдне 9 балаў), Л. Медзіч (папярэдне 8 балаў), Ю. Гайдамакаў (папярэдне 7 балаў), С. Сінельнік (папярэдне 6 балаў).

Колькасць месцаў дыпламантаў вырасла да шасці: У. Палупанаў (папярэдне 2 балы), А. Мізула (папярэдне 4 балы), І. Мухін-Рабянок (папярэдне 8 балаў), Ж. Некрашэвіч (папярэдне 2 балы) ды, нарэшце, С. Кулягін і дуэт Парфенчыкаў, кандыдатуры якіх падчас першага галасавання ніхто нават не прапаноўваў да абмеркавання. Усе выканаўцы з новага спіса, пачынаючы з І. і А. Парфенчыкаў і скончыўшы К. Герашчанкам, выступілі ў праграме гала-канцэрта, прадэманстраваўшы публіцы лепшыя, на думку ўдзельніка аргкамітэта і старшыні журы А. Атаманава, узоры беларускай бардаўскай песні.

Але ці так ужо кепска тое, што кампанія сяброў наладзіла канцэрт, узнагародзіўшы на ім сваіх і абмінуўшы чужых? Безумоўна, не. Прыкра тое, што гэтае мерапрыемства было названа і трансляванa на ўсю краіну дзяржаўным тэлебачаннем як «Першы нацыянальны фестываль аўтарскай песні», г. зн. арганізаваны дзяржавай дзеля выяўлення і падтрымкі лепшых прадстаўнікоў нацыянальнай культуры. На жаль, стваральнікі «Залатой горкі» паставілі знак роўнасці паміж арганізацыйнымі і творчымі здольнасцямі, паміж беларускай паэзіяй і масавай эстраднай песняй.

Якімі крытэрыямі трэба карыстацца, надаючы конкурсу назву «нацыянальны»? Чым розніцца паміж сабой спявак з гітарай у руках і стваральнік беларускай аўтарскай песні? Час адказаць на гэтыя пытанні, бо праз год арганізатары нядаўняга «нацыянальнага фестывалю» збіраюцца, атрымаўшы падтрымку дзяржавы, надаць яму статус дзяржаўнага і міжнароднага. Якой будзе «Залатая горка-95»?

**У. ПАНАДА.**

